# НАВІНКІ

13 - 20 лютага 2003 №6(85) Кошт свабодны





Твор Туркменбашы – цяпер па-беларуску!
*стар.2*

**Акцыя любові** *па-маладафронтаўску*
*на стар.3*







# Малевіч меў рацыю...

## Апошнія захапленьні ўладаў тэматыкай машэраўшчыны наводзіць на шмат якія думкі

Натуральная карціна. Любая ўлада, якой бы яна ні была, рэакцыйнай або рэвалюцыйнай, так ці йнакш імкнецца легітымізаваць сябе ў мінуўшчыне. Гітлер шукаў карані нацыянал-сацыялізму ў «Тысячагадовым рэйху»; прэзыдэнт Вэнэсуэлы Уга Чавэс – у пладах пазавекавой гісторыі змаганьня за незалежнасьць Сымона Балівара; расейскі бос Пуцін намагаецца зрабіць дзікі грымучы кактэйль з ашмёткаў былой Расейскай імпэрыі і Савецкага Саюзу...

На 9-м годзе Эры Лукашэнкі ў нас усё выразьней адчуваецца тэндэнцыя да міталягізацыі эпохі Машэраўскага дабрабыту. У гэтым, у прынцыпе, няма нічога дзіўнага, бо такога кшталту патугі знаёмыя нам ад часоў станаўленьня рыначнага сацыялізму. Рэжым Лукашэнкі заўжды імкнуўся абгрунтаваць сваю ідэалёгію ў недалёкім мінулым савецкага шчасьця. Глупа было б апэляваць да нэпманска-здрадніцкага СССР часоў Гарбачова, таму прыходзілася апускацца да больш раньніх часоў. Дзякуй богу, што ў нас аказаўся такі пэрсанаж як Машэраў. Народны эпас позьне-савецкай Беларусі прыпісвае фігуры Машэрава шэраг якасьцяў, якія б спатрэбіліся й для сёньняшняга гаспадара былога будынку ЦК КПБ на Карла Маркса-38. Маўляў, і народ у абіду не даваў, і дабрабыт мацаваў, і з Масквой цягаўся, і нават быў магчымым кандыдатам на пасаду Самаго. Таму Машэраў для лукашэнкаўскай гістарычнай навукі сапраўды аказаўся дарэчы, не выключаючы нават спробаў абгрунтаваць пэўную пераемнасьць сёньняшняга рэжыму з часамі машэраўшчыны – своеасаблівы машэрызм-лукашызм атрымліваецца. Аднак, чамусьці ніхто з раскрутчыкаў, што піараць міт Машэрава, не задумаўся, а што было б, каб Машэраў застаўся жывы, і які лёс напаткаў бы сёньняшняга «эстафэтчыка»? Якая будучыня нас чакала б?..

**(Працяг на стар. 3)**


Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.
Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Тыраж 3000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ №177
Нумар падпісаны да друку 13.02.2003г., а 00.01.

# ПАМРЫ, АЛЕ НЯ ЗАРАЗ



Раскруціўшы чарговую справу, Джэймс Бонд дазваляў сабе забаўляцца зь дзяўчынамі.



Раптам у размову ўмяшаўся трэці.









Бонд адразу прыступіў да выкананьня заданьня.



Бонд спыніўся ў самым фэшэнэбэльным гатэлі.



У пад'езьдзе яго чакалі незнаёмыя людзі.



Бонд жартуючы раскідаў пэтэвэшнікаў.






Зранку Бонд прыйшоў у Хартыю.



Бонд ня быў бы Бондам, калі б упусьціў сустрэчу з такой прыгажуняй як Людміла Гразнова.






Толькі зранку Бонд узгадаў пра сваю місію.


Пранікнуўшы ў офіс Хартыі, Бонд адчыніў сэйф.



У ім ляжалі 300 тыс. даляраў амэрыканскіх падаткаплацельшчыкаў.



Раптам за сьпінай Бонда ўзьніклі лідэр Хартыі Бандарэнка і ягоны шасьцёрка Дранчук.









Разьведчык абвёў вакол пальца міжнародных тэрарыстаў і націснуў на запаветны акцыз.



З бутэлькі вылецела капсула зь вірусам белай гарачкі і...



...і паваліла ворагаў долу.


Забраўшы грошы, Бонд зрабіў ногі.








У той жа дзень «Абрахам Лінкальн» нанес кропкавы ўдар па Багдаду і пакончыў з дыкатарам.

